Жыве Беларусь!




# Родная ніва

Газета ўзнагароджана Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

2000 30 ЖНІЎНЯ СЕРАДА № 68 (9555)

Заснавана ў красавіку 1918 года

## 1 верасня — Дзень ведаў

## Добры дзень, школа!

1 верасня наша краіна адзначае Дзень ведаў. Гэта свята не толькі нашай будучыні — студэнтаў, навучэнцаў, школьнікаў, але кожнага жыхара рэспублікі, хто прайшоў дарогамі трывалых ведаў.

У новым навучальным годзе перад нашай школай стаяць вялікія і адказныя задачы. Перш за ўсё — гэта забеспячэнне якаснага рэфармавання агульнаадукацыйнай школы, стварэнне эфектыўнай сістэмы патрыятычнага, грамадскага, духоўна-маральнага выхавання школьнікаў, аптымальных умоў для фізічнага развіцця і захавання здароўя навучэнцаў.

Неабходна дабівацца, каб пастаяннымі клопатамі вучэбнага працэса было развіццё мышлення, уменне прымяняць атрыманыя веды на практыцы і ў паўсядзённым жыцці.

Трэба пастаянна памятаць, што адукацыя — гэта не толькі сродак атрымання пэўных ведаў, уменняў, навыкаў, засваенне прафесійных функцый, а перш за ўсё спосаб уваходжання ў нацыянальную і сусветную культуру, засваенне кожным навучэнцам гуманістычных каштоўнасцей.

Жадаем педагагічным калектывам школ, сельскагаспадарчага тэхнікума, прафесійна-тэхнічнага вучылішча, шматтысячнай арміі навучэнцаў і школьнікаў моцнага здароўя, аптымізму, творчых поспехаў, шчасця ў асабістым жыцці, удачы ў новым навучальным годзе!

**Раённы выканаўчы камітэт** **Раённы Савет дэпутатаў**

## Вось які клас у нас!



У канцы мінулага навучальнага года мы завіталі ў Цімановскую сярэднюю школу. І даведаліся пра наступнае. Паўсюль многія шэфствуюць над школамі-інтэрнатамі. А вось рабяты з 3 "Б" класа пасля таго, як у іх жа вёсцы пачаў працаваць дзіцячы сад-яслі "Агеньчык" з кругласутачным утрыманнем дзяцей з няўдалых сем'яў, падрыхтавалі для яго маленькіх выхаванцаў цікавае прадстаўленне.

Вядома ж, дзякуючы намаганням сваёй настаўніцы Вольгі Мікалаеўны Курцікавай. Свайго класнага кіраўніка. Ой, як добра выступілі маленькія для маленькіх! У старым дзіцячым садку, дзе і размясціўся дзіцячы прытулак. Яны інсцэніравалі казку Сяргея Міхалкова "Зайка-зазнайка".

І гэтае права выступаць трэба было яшчэ заваяваць. Спачатку ў школе гэты клас заняў у такім спаборніцтве, школьным конкурсе інсцэніраванай песні, першае месца. Сярод класаў з трэцяга па сёмы.

І вось доўгачаканая перамога! І зноў удалае выступленне! Перад малышамі хораша выконвалі свае ролі юныя школьныя артысты — галоўную, зайкі-зазнайкі, Эдзік Маскалец, артыстаў, выдатніца вучобы Аня Чарненкава і Жэня Зык, паляўнічага Максім Багачоў, лісы Алена Галалобава, ваўка Юра Астапенка, астатніх зайцаў Віка Расейкіна і Сярожа Міруца.

А ўсяго ў гэтым класе займаецца 19 вучняў. Адны рабяты схільныя да вучобы, другія — да артыстычнай дзейнасці. Але ўсе разам яны дружна крочаць па Краіне ведаў пад кіраўніцтвам сваёй класнай Вольгі Міхайлаўны.

Сёлета з імі настаўніца пачатковых класаў будзе займацца апошні навучальны год. Праз год яе чакаюць ужо новыя першакласкі. А вось падала ідэю напісаць у газету пра гэты клас і настаўніцу намеснік дырэктара па выхаваўчай рабоце С. І. Захтарэнка і дырэктар школы Д. В. Кісялёў.

Пра клас, у якім любяць не толькі вучыцца грамаце, але і міласэрнасці, творчасці, аб чым сведчыць у класе і маляўнічая дошка, і выстаўка малюнкаў рабят, і прыгожы класны куточак.

**І. ЛАПО.**

**Фота В. АСМАЛОЎСКАГА.**

Актуальна

## Праблемы развіцця супрацоўніцтва — галоўная тэма гутарак Прэзідэнта Беларусі на сустрэчах у Крыме

Пасля саміта кіраўнікоў дзяржаў СНД, праведзенага 18 жніўня ў Ялце, Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка прадоўжыў сваё знаходжанне ў Крыме. 19 жніўня адбылася яго сустрэча са старшынёй Вярхоўнай рады Крыма Леанідам Грачом. Паводле слоў Прэзідэнта, гэта сустрэча — адна з самых важных у ходзе яго знаходжання ў Крыме. Бакі абмеркавалі комплекс праблем, што датычаць гандлёва-эканамічнага супрацоўніцтва, і шэраг гаспадарчых пытанняў па беларускай уласнасці на паўвостраве.

20 жніўня Аляксандр Лукашэнка сустрэўся з Прэзідэнтам Арменіі Робертам Качаранам. Адной з тэм перагавораў, як адзначыў прэс-сакратар кіраўніка беларускай дзяржавы, былі пытанні, што датычаць двухбаковага супрацоўніцтва, у тым ліку абмяркоўваліся вынікі візіту ў Мінск прэм'ер-міністра Арменіі і дамоўленасці, дасягнутыя ў ходзе яго. Аляксандр Лукашэнка і Роберт Качаран абмяркавалі таксама перспектывы далейшага ўзаемадзеяння дзвюх краін у рамках міжнародных і рэгіянальных арганізацый.

Завяршылася знаходжанне Аляксандра Лукашэнкі ў Крыме сустрэчай з Прэзідэнтам Украіны Леанідам Кучмам. Яна адбылася 21 жніўня ў рэзідэнцыі кіраўніка беларускай дзяржавы. На ёй абмяркоўваўся шырокі спектр эканамічных і палітычных пытанняў, што датычаць двухбаковых адносін.

**Вольга ШЧАДРЫНА.**

## Жнівеньскі педсавет: больш свята чым нарада

Традыцыйная жнівеньская нарада настаўнікаў Клімавіцкага раёна праходзіла ў глядзельнай зале грамадска-бытавога корпуса сельгастэхнікума. А пачалася яна з фае — з арганізацыі і прагляду вялікай цудоўнай выстаўкі кветак і творчых работ навучэнцаў, педагогаў. Сузіранне прыгажосці, вядома ж, прыбавіла ўсім святочнага настрою, які перадаўся і на далейшы ход сустрэчы.

Намеснік старшыні райвыканкама І. А. Баршчоў пазнаёміў прысутных у зале з шаноўнымі гасцямі, прадставіў членаў ганаровага прэзідыума канферэнцыі і прадаставіў першаму слова загадчыку раённага аддзела адукацыі В. В. Кавалёву, які зрабіў аналіз работы педкалектываў раёна ў мінулым навучальным годзе і акрэсліў галоўныя задачы на прадстаячы.

У абмеркаванні даклада прынялі ўдзел дырэктар Красавіцкай СШ У. І. Шупранаў і намеснік дырэктара па вучэбна-выхаваўчай рабоце першай гарадской школы Г. П. Валюжэніч.

І вось сур'ёзныя размовы дарослых перапыніюць юныя выхаванцы Л. Ф. Клега з сярэдняй школы № 3. Іх узнёслае, чулліве выступленне-прывітанне выклікала лагодныя ўсмешкі на тварах удзельнікаў канферэнцыі.

Затым слова ля мікрафона было прадастаўлена намесніку Міністра адукацыі РБ Г. Д. Дыляну. Генадзь Дзем'янавіч у нейкай ступені спыніўся на мэтах і праблемах адукацыі, адказаў на пытанні з залы. Потым павіншаваўшы настаўніцтва Клімавіччыны са святам і падзякаваўшы іх за працу, уручыў самым дастойным узнагароды: настаўніцы пачатковых класаў Цімановскай СШ Н. П. Кавалёвай Ганаровую грамату Міністэрства адукацыі, а настаўніцы беларускай мовы і літаратуры СШ № 2 І. Ф. Сінічкінай грамату Міністэрства.

Ганаровую місію — уручэнне ўзнагарод — выканаў і начальнік упраўлення адукацыі аблвыканкама Валерый Сцяфанавіч Багданаў. Граматамі абласнога выканаўчага камітэта адзначаны У. С. Анішчанка — дырэктар Судзілаўскай сярэдняй школы і Л. Л. Шаўцова — загадчыца бібліятэкай СШ № 4. А непасрэдна граматы ўпраўлення адукацыі атрымалі : настаўніца рускай мовы і літаратуры Малашкавіцкай СШ К. В. Шаўчэнка, загадчыца дзіцячым садам № 5 "Расінка" С. В. Семянцова, настаўніца рускай мовы і літаратуры трэцяй гарадской школы Т. Р. Дулуб, дырэктар Красавіцкай СШ У. І. Шупранаў, настаўніца англійскай мовы СШ № 3 В. Я. Буранкова, настаўніца рускай мовы і літаратуры сярэдняй школы № 2 Г. К. Хруліндзік. Каштоўнага падарунка аблвыканкама ўдастоена настаўніца хіміі і біялогіі Вялікамохскай сярэдняй школы Т. І. Родзькіна.

Святочным віншаванні і пажаданні самыя найлепшыя нашым шаноўным педагогам прагучалі і ў час выступлення кіраўніка мясцовай улады — старшыні райвыканкама У. В. Канавалава. Вядома ж, Уладзімір Венедзіктавіч не мог абысці і праблемы школ ў раёне. Затым групе настаўнікаў ён уручыў узнагароды — граматы райвыканкама. А менавіта: загадчыцы фільматэкай РАА Л. П. Шашковай, дырэктару Галіцкай СШ Г. Л. Малашанка, метадысту па бібліятэчных фондах РАА Н. А. Зуйковай, кіраўніку фінансава-эканамічнай групы бухгалтэрыі РАА М. А. Смірновай, дырэктару Недзведзьскай базавай школы А. І. Падгурскай, дырэктару Малашкавіцкай СШ В. М. Любіч, загадчыцы аддзелам турыська-краязнаўчай работы РЦПР Р. Я. Аляксеенка, дырэктару Звянчацкай СШ М. І. Галянковай.

І асаблівыя словы ўдзячнасці ў гэты дзень былі выказаны паважаным ветэранам педагагічнай працы. Ім рабяты прыпаднеслі ружы і сувеніры на памяць аб сустрэчы.

А вось ужо на сцэне і іх паслядоўнікі, юная змена. Сёлетняе папаўненне арміі настаўнікаў раёна — дваццаць адзін малады педагог. Іх на гэтай святочнай урачыстасці вітала дырэктар Недзведзьскай базавай школы Ала Іванаўна Падгурская. Слова ў адказ трымаў настаўнік матэматыкі і фізікі, які накіраваны ў Красавіцкую СШ, Рыгор Рыгоравіч Гулак. І пачынаючыя работу педагогі не засталіся без падарункаў.

Прыйшла чарга ўручыць граматы і раённаму аддзелу адукацыі, што з вялікім задавальненнем зрабіў загадчык аддзела Васіль Васільевіч Кавалёў. Вось яны, узнагароджаныя: настаўніца пачатковых класаў СШ № 2 Т. Л. Пачачуева, загадчыца аддзелам фізічна-спартыўнай работы РЦПР Т. Ц. Хомчанка, настаўніца рускай мовы і літаратуры Гусаркаўскай базавай школы К. А. Братусева, культарганізатар аддзела дзіцячай творчасці Т. В. Хомчанка, загадчыца складам гаспадарчай групы РАА М. С. Грыневіч, метадыст аддзела турыська-краязнаўчай работы РЦПР В. Р. Яроміна, настаўніца працоўнага навучання Паўлавіцкай базавай школы Т. М. Кавалёва, настаўнік працоўнага навучання Асмолавіцкай базавай школы А. У. Купцоў, загадчыца дзіцячым садам "Сонейка" Г. П. Раманоўская, дырэктар Асмолавіцкай базавай школы А. М. Віцюгоў, педагог-арганізатар Барсукоўскай СШ А. У. Тамашова, настаўніца біялогіі і хіміі Палошкаўскай СШ Л. В. Даніленка.

Пра выстаўку кветак і творчых работ я ўжо ўзгадвала раней, а цяпер назаву тых, хто візначаны з ліку ўсіх спецыяльнай камісіяй і ўзнагароджаны граматамі. Гэта першая, другая і чацвёртая школы горада, Звянчацкая, Мілаславіцкая і Асмолавіцкая сельскія.

Цудоўным падарункам для ўсіх нас быў святочны канцэрт з Мінска, арганізаваны, дарэчы, не без дапамогі Валянціна Раманавіча Сімірскага — памочніка намесніка Старшыні Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу РБ. Вельмі спадабаліся маладыя артысты беларускай эстрады — спевакі Андрэй Дзебаш, Вікторыя Алешка, Вольга Вронская, і, безумоўна, наша ўжо больш вядомая спявачка Іна Афанасьева і заслужаны артыст Беларусі Аляксей Ісаеў. Алег Акуліч — хто ж не ведае гэтага майстра размоўнага жанру! Яго клімаўчане, разумеючыя і жарт, і гумар, прымалі цёпла, адорваючы, як і ўсіх, кветкамі, працяглымі апладысментамі. А галоўным у групе артыстаў быў знакаміты беларускі кампазітар Васілій Раінчык. Дзякуй ім усім вялікі за падараваную радасць сустрэчы, і хочацца спадзявацца, што гэтым сустрэчам толькі пакладзены пачатак, як, дарэчы, гаварылі на развітанне самі сталічныя госці.

**В. КВАРЦЮК.**

# Іх лёс — служэнне чытачу

**Ва ўзросце сталасці і ў той жа час адраджэння, у рытме сённяшняга часу жыве і працуе зараз раённая цэнтральная бібліятэка, з'яўляючыся інфармацыйным і культурным цэнтрам нашага горада і раёна. У другой палавіне жніўня яна адзначыла свой 80-гадовы юбілей.**

На гэта ўрачыстае свята, што праходзіла ў РЦК, было запрошана багата гасцей. Калектыў бібліятэкі прыехалі павіншаваць начальнік упраўлення культуры аблвыканкама М. Р. Дарашкоў, старшыня абкама прафсаюза работнікаў культуры Н. П. Аўдзеева, дырэктар абласной аб'яднанай бібліятэкі імя Леніна А. М. Васіленка, дырэктар ЦБС Касцюковіцкага раёна В. У. Кузняцова, былы дырэктар Клімавіцкай бібліятэкі Р. Н. Рыхнова.

Ад мясцовай улады юбіляраў вітаў намеснік старшыні райвыканкама А. А. Саўкін, загадчыца раённага аддзела культуры В. М. Хаўранкова. І яшчэ нямала добрых слоў віншаванняў і пажаданняў было выказана нашым дарагім бібліятэкарам шматлікімі сябрамі, калегамі.

Прыгожыя букеты кветак, каштоўныя падарункі, а ў тым ліку і музычныя, узнагароды (грашовыя прэміі таксама) — усё гэта, вядома ж, было. І шмат. Наша бібліятэка-юбіляр адна з лепшых у вобласці і рэспубліцы. Ганаровая грамата Міністэрства культуры РБ — яшчэ адна адзнака работы таленавітага, дружнага калектыва. Заслужаная ўзнагарода — Ганаровая грамата абласнога выканаўчага камітэта — была ўручана ўмеламу і вопытнаму арганізатару і кіраўніку ўсёй бібліятэчнай справы ў раёне, дырэктару бібліятэкі Антаніне Васільеўне Сіліверставай. Старэйшыя работнікі Святлана Пракопаўна Уланава і Валянціна Леанідаўна Мычко — загадчыца аддзела бібліятэчнага маркетынга і бібліятэкар першай катэгорыі аддзела камплектавання — атрымылі граматы ўпраўлення культуры аблвыканкама.

Увогуле, ні адзін чалавек, што працуе ў бібліятэцы, не застаўся па-за ўвагай. А ветэранам бібліятэчнай справы, настаўнікам іх сённяшняя маладая змена прыпаднесла памятныя сувеніры і запрасіла ў сваю родную бібліятэку за гасцінны святочны стол падзяліцца яшчэ раз сваімі ўспамінамі і багатым жыццёвым і працоўным вопытам.

Так, жыве сёння цэнтральная бібліятэка нядрэнна: ёсць значны кніжны фонд, добрыя кадры, сучаснае абсталяванне для разнастайнай работы. Вось толькі памяшканне — усё тое ж, што і шмат год назад.

**В. КВАРЦЮК.**

# Рады вам, новае папаўненне!

Вось-вось пачнуцца заняткі і ў "кузні" сельскагаспадарчых кадраў — Клімавіцкім сельгастэхнікуме. Як праходзіў набор навучэнцаў сёлета расказвае **адказны сакратар прыёмнай камісіі Таццяна Фёдараўна Босава.**

— План прыёму на 2000-2001 навучальны год на аддзяленне механізацыі сельскай гаспадаркі склаў 50 чалавек, гэта значыць па 25 навучэнцаў пасля 9 і 11 класаў. На заатэхнічнае аддзяленне — 60 чалавек (па 30 навучэнцаў на базе 9 і 11 класаў). 105 чалавек на ветэрынарнае аддзяленне — па 25 навучэнцаў у тры групы на базе 9 класаў і 30 навучэнцаў на базе 11 класаў.

Для выканання гэтага плана прыёмная камісія працавала па прафарыентацыі ўжо са студзеня 2000 года. Былі адпраўлены пісьмы па школах аб правілах прыёму ў тэхнікум, выязджалі на месца выкладчыкі і навучэнцы. У перыяд з 15 па 28 ліпеня ў нас працавалі падрыхтоўчыя курсы, на якіх займаліся 154 абітурыенты. З 1 па 19 жніўня праходзілі ўступныя экзамены. 21 жніўня — залічэнне ў лік навучэнцаў.

Не ўсе паступаўшыя на механічнае аддзяленне прайшлі па конкурсу, і ім прапануецца платнае навучанне з аплатай 4 "мінімалкі" штомесяц.

Хочацца сказаць, што план прыёму навучэнцаў новага набору выконваўся з цяжкасцю на ветэрынарнае і заатэхнічнае аддзяленні на базе 9 класаў. А на аддзяленне механізацыі сельскай гаспадаркі быў конкурс — прыкладна 2,5 чалавека на месца. Але тым не менш, план прыёму выкананы.

У выкананні плана прыёму мне дапамаглі тэхнічныя сакратары Ларыса Яўгенаўна Якшонак, Тамара Іванаўна Дароніна, Валянціна Аляксееўна Чысцікава, якія свае абавязкі выконвалі з усёй адказнасцю і своечасова.

Словы ўдзячнасці трэба выказаць і экзаменатарам, якія былі з ліку выкладчыкаў тэхнікума, а таксама настаўнікаў сярэдніх школ № 1 і № 4 горада, за аб'ектыўнасць адзнак ведаў абітурыентаў.

Усе паступіўшыя сёлета іншагароднія навучэнцы будуць забяспечаны інтэрнатам.

Хочацца, каб усе навучэнцы новага набору на працягу ўсяго тэрміну навучання паказвалі толькі добрыя веды, прыкладна паводзілі сябе і былі актыўнымі ў грамадскім жыцці тэхнікума.

**Запісала В. КВАРЦЮК.**

# Фотапагляд

**У дапаможнай школе-інтэрнаце рукамі выхаванцаў з дапамогай настаўнікаў, якія імкнуцца навучыць іх многім карысным для жыцця навыкам, выраблены цікавыя работы, што стварылі тут выставу.**



**Віктр Аляксандравіч Эверс вучыць рабят абутковай справе.**



**Галіна Несцераўна Раханская адказвае ў школе за гаспадарчую частку. Яна стараецца, каб работа ладзілася.**

**Фота В. АСМАЛОЎСКАГА**

# Логарифмы и песни

**(Продолжение. Начало в № 63,64,66)**

**Первый обед в Великой Германии**

Пока мы доехали до Котовиц, прошло около суток с тех пор, как вышли из вагона, в который нас загнали в Климовичах. За это время ничего не ели. Буквально ничего. Поэтому и вспомнили свои сумки с продуктами и все, что в них осталось.

Родители, провожая нас в дальнюю дорогу, не скупились. Отдавали лучшее. Довезли нас до Хемница за четверо суток. Продукты остались. Перед дезинфекцией нам дали команду: "Все продукты сложить вот здесь!" Показали место, где сложить. Мы все быстро и четко выполнили команду. Сложили. После дезинфекции, холодного душа и медицинского осмотра никто не дал команду: "Продукты забрать!". Поэтому и вспоминали, где остались наши сумки и что в них. С нетерпением ждали обеда. Дождались. Тот первый обед в Великой Германии запомнил на всю жизнь. Нам дали супу из капусты с неочищенной картошкой. Без всякой заправки. Слабо посоленый. Очень хотелось есть, но тот суп не смог съесть. Не у меня одного началась рвота. Правда, скоро привык к такому супу. Норму съедал, и было мало. Постоянно хотелось есть. Черный хлеб был бы божьим даром. Чаще всего и больше всего думал о нем. На сутки выдавали его 200 граммов. Распорядок питания и работы был такой:

Подъем в 6 часов. На завтрак выдавали 200 граммов хлеба и 2 черпака черного эрзац-кофе. И только. Хлеб можно было съесть сразу же. Можно было делить на два и три раза. Обычно его съедали сразу же. Так поступали все. После завтрака пешком шли на работу без конвоя. До работы было около километра. Перерыв на обед с 12 до 13 часов. На обед выдавали по 2 черпака овощного супа. Обычно из кольраби, красной капусты или брюквы. Картошки добавляли редко. Обычно по великим праздникам. Работали по 12 часов в день. С 7 часов до 19 часов при одном выходном в неделю — по воскресеньям. С работы в лагерь возвращались без конвоя. На ужин ничего не выдавали.

В целом питание было плохое. И это было самой великой бедой остарбайтеров. Работа — тяжелая. Добывали бурый уголь. Первые два месяца наша работа сводилась к тому, что мы заполняли карьеры, оставшиеся после добычи бурого угля открытым способом.

Для этого на вагонетках подвозили к карьеру землю, снятую при вскрытии очередного пласта угля. Вагонетки опрокидывали, а мы лопатами ее разбрасывали, ровняли, утрамбовывали. Так делали до тех пор, пока на месте карьера оставалась ровная площадка.

Приходилось целыми днями махать лопатой. Нередко попадались глыбы земли или твердой породы. В начале засыпки карьера мы оставляли их в первозданном виде. Просто закапывали. Перед окончанием засыпки карьера приходилось их разбивать и разравнивать землю. Разбивка глыб стоила больших усилий измученных остарбайтеров.

В моменты, когда возле карьера скапливались горы земли, было особенно трудно. Надзиратели не позволяли отдыхать. Заставляли постоянно махать лопатами. Сил уже не было.

Постоянными и навязчивыми были мысли о том, чем и как утолить голод. Там, возле карьера, не раз вспомнил выступление бургомистра Розанцева и его болтовню о чести, достоинстве, призыве хорошо работать. А ведь такое нам говорили немцы, когда нас везли в Германию. На больших станциях, в Орше, Минске и других они заходили к нам в вагоны. На ломаном русском языке или через переводчиков говорили о том же.

Надсмотрщики не только словами подгоняли, чтобы быстрее работали. Они били нас палками и всем, что попадало под руку. Не позволяли делать хоть короткий отдых. Принуждали постоянно работать. Только в обеденный перерыв оставляли нас в покое.

**Первая радость в траурный день**

Во время засыпки карьеров запомнился день в начале февраля 1943 года. Дату точно не помню. Каждый раз, вспоминая тот день с утра до вечера, будто снова вижу, слышу и переживаю все, что было со мною.

В 7-ом часу утра по дороге от лагеря к карьеру увидели много приспущенных флагов со свастикой и черными лентами. Пожалуй, каждый из нас пытался угадать: чтобы это значило. Обилие флагов, черного и красного цветов резко бросилось в глаза. Полюбопытствовали у немцев: что это значит. Они тихо, смиренно, как на похоронах при покойнике, отвечали: на Волге, возле Сталинграда, войска Германии потерпели поражение. Фюрер Адольф Гитлер объявил траур.

Тот траур вызвал у меня и, пожалуй, у всех нас радость, укрепил веру и надежду, что выживем, дождемся освобождения. Тогда впервые подумал, что немцы потерпели поражение и скоро начнется их бегство из Советского Союза на запад. Такие мысли и такое настроение было впервые за время пребывания в Германии.

Тогда, в тот самый день, я дал себе клятву: если дождусь освобождения от этого рабства, никогда не забуду Родину и отблагодарю ее за спасение. В закрепление клятвы проглотил кусочек земли, которую утрамбовывал в карьере, а затем взял в рот кусочек снега и медленно сосал его. Думал: чем и как я отблагодарю Родину за спасение?

Ту клятву не забыл. Часто вспоминаю до сих пор. Не только в дни юбилея, когда газеты, радио, телевидение напоминают о Сталинградской битве, смотрю о ней кинофильмы. Вспоминал ее часто и всякий раз думал, что успел сделать по выполнению той клятвы.

В 1999 году, когда город торжественно отмечал полувековой юбилей народного хора Климовичского районного центра культуры, которым я руковожу со дня его создания, слушал оценку моих трудов и сам подводил итоги прожитого и сделанного. При этом все более убеждался, что успел сделать много хорошего для города и района. Тогда уверенно сказал себе: это свидетельство выполнения клятвы. Это моя благодарность Родине за спасение.

Да, я успел сделать много полезного людям и Родине. Постоянно испытываю чувство благодарности Родине за спасение от фашистской неволи.

Тогда, в дни боев под Сталинградом, мне было трудно. Очень трудно. Самым сильным и постоянным было желание утолить голод. Выполнял тяжелую физическую работу. Был плохо одет и обут. Работал под открытым небом и в любую погоду. А все-таки мне очень хотелось жить, выжить и дождаться свободы.

В средине февраля 1943 года нас, сильно истощенных остарбайтеров, перевели на другие работы и в другие места в окрестностях того-же Карлсбада. Некоторых направили на консервный завод. Я попал на фарфоровую фабрику в д. Ходау, в 5-ти километрах от Карлсбада.

Конечно, не в рай попал, однако условия жизни и быта были лучше, чем во времена, когда засыпал карьеры и жил в лагере за колючей проволокой.

Имеет значение и то, что я чувствовал себя причастным к изготовлению продукции, вид которой подымает настроение. Радует. Там изготовляли разные фарфоровые изделия от простых мисок, тарелок, чашек до богатых и красивых сервизов. Более того, на фабрике выполняли спецзаказы.

Спецзаказами мы называли изделия, предназначенные для выдачи в качестве призов, ценных подарков, памятных сувениров. Выдавались они военным и гражданским чиновникам за заслуги перед рейхом, в связи со знаменательными датами, юбилеями, важными событиями и т. д.

**(Продолжение следует)**

## Віншуем!

**Виктора Павловича СУХОРУКОВА С 60-ЛЕТИЕМ!**

Дорогой наш именинник!
С прекрасным юбилеем
поздравляем,
Пусть их немало
будет впереди.
Здоровья, счастья,
радости желаем
И бодрости на жизненном
пути.
Пусть в этот день засветит
ярче солнце,
А радость жизни пусть
закроет тьму,
И пусть здоровье будет
лучшим из подарков,
А остальное все
приложится к нему.

**Брат Александр, невестка Светлана, племянницы Татьяна, Ольга, Елена и их семьи.**

## Пытайцеся — адказваем

# Мае права на кампенсацыю

"Мой муж быў інвалідам 3 групы і атрымліваў за страту працаздольнасці пенсію ў памеры 60% ад зарплаты трактарыстам у эксперыментальнай базе "Раднянская" і ў аддзеле сацыяльнай абароны насельніцтва. У маі ён памёр. Засталася дачка 11 год.

У аддзеле сацыяльнай абароны налічэнне пенсіі ажыццяўляецца. А ці мае яна права атрымліваць дапамогу ад саўгаса з выпадку страты кармільца?

**Л. ЗЕНКЕВІЧ, в. Сідараўка.**

На просьбу чытачкі адказвае галоўны юрысконсульт райвыканкама **Святлана Віктараўна БУЗА:**

**" У адпаведнасці з арт. 957 Грамадзянскага кодэкса Рэспублікі Беларусь, дачка пацярпеўшага працоўнае калецтва, мае права на кампенсацыю шкоды ў сувязі са смерцю кармільца ў вызначанай долі заработку памершага. Грамадзянцы Зенкевіч па гэтаму пытанню неабходна звярнуцца ў адміністрацыю саўгаса. Пры нязгодзе з рашэннем адміністрацыі яна мае права звярнуцца з іскам у суд".**





# Внимание — дети!

## Госавтоинспекция информирует

С 25 августа по 5 сентября проводится операция "Внимание — дети!".

Вот заканчиваются детские каникулы. После летнего отдыха дети пойдут в школу и многие из них впервые. В пути они будут переходить через улицы, перекрестки и дороги с интенсивным движением транспорта.

Практика подсказывает, что за летний период многие школьники ослабили свое внимание к соблюдению правил движения, а первоклассники еще не знакомы с этими правилами. Вследствие этого в начале учебного года по вине детей совершается наибольшее количество дорожных происшествий.

**В целях предупреждения детского уличного травматизма Госавтоинспекция обращается к Вам, уважаемые взрослые, с добрыми советами.**

Выберите для своего ребенка, особенно первоклассника, самый безопасный и удобный маршрут с наименьшим количеством переходов через улицы и дороги. Несколько раз лично пройдите с ним по этому пути, разъясняя, в каких местах и как он должен переходить перекресток, улицу или дорогу.

Было бы очень хорошо, если бы вы смогли сопровождать первоклассника в школу и встречать его после занятий.

Очень важно, чтобы ваш ребенок не только запомнил, но и понял, почему, например, пешеходы должны ходить только по тротуарам, а где их нет — по левой обочине дороги, навстречу движению транспорта, или почему нельзя играть на проезжей части улиц и дорог.

В городах и населенных пунктах, где движение регулируется светофором или милиционером-регулировщиком, научите детей правильно понимать значение сигналов светофоров и жесты регулировщиков и выполнять их.

Приучите детей к внимательности и дисциплинированности, не разрешайте им перебегать улицу или дорогу перед близко идущим транспортом, так как даже опытный водитель не может мгновенно остановить автомобиль или мотоцикл.

Особую осторожность дети должны проявлять при выходе из-за автобусов, других транспортных средств и препятствий, ограничивающих обзорность проезжей части, так как из-за невнимательности и неосторожности по вине детей совершается большое количество дорожных происшествий с тяжкими для них последствиями, а иногда и со смертельным исходом. Поэтому улицу или дорогу надо переходить подальше от стоящего транспорта с тем, чтобы убедиться в безопасности своего перехода.

**Помните! От строгого соблюдения правил движения детьми зависит их жизнь и здоровье.**

Госавтоинспекция поздравляет детей с началом учебного года. Желает хороших успехов в учебе и крепкого здоровья.

Теперь я хочу обратиться к водителям автомототранспорта.

Товарищи водители! В период проведения операции "Внимание — дети!" (с 25 августа по 5 сентября) просьба двигаться на транспорте в дневное время сутки с ближним светом фар, а также соблюдать скоростной режим вблизи детских учебных заведений.

**С. САВЧЕНКО, госавтоинспектор ОГАИ Климовичского РОВД.**

## В прокуратуре района

# Незваный гость

Рабочий птицефабрики Бураков А. А. 7 февраля 2000 года в дневное время по месту жительства в д. Недведь употреблял спиртные напитки. Достигнув "хорошего" состояния, он решил сходить в гости к своей знакомой Голенковой С. В., которая одна проживала в доме в этой же деревне. Примерно в 21 час, подойдя к дому, он постучал в дверь, но Голенкова С. В., услышав, что Бураков А. А. находится в нетрезвом состоянии, его не впустила в дом и попросила уйти. Бураков А. А. не отреагировал на ее слова, и услышав в доме работающий телевизор, стал стучать в дверь кулаками и требовать , чтобы ему открыли дверь. В это время в доме кроме Голенковой С. В. находились также и ее подруги Вацура Л. В., Буракова Л. В. и Чигрецкая О. М.

Постучав в дверь около 30 минут, Бураков А. А. заглянул в окно и, увидев других девушек, стал выражаться в их адрес нецензурной бранью, а затем, чтобы его впустили в дом, оборвал телевизионный кабель антенны. Когда же и после этого ему не открыли входную дверь. Бураков А. А. несмотря на зимнее время, разбил стекло в одном из окон и через него залез в дом. В доме Бураков А. А. стал всячески оскорблять нецензурной бранью находящихся там девушек и не реагировал на требования Голенковой С. В. и ее подруг прекратить хулиганские действия.

В ходе проведенного дознания по указанному факту действия Буракова А. А. были квалифицированы по ст. 201 ч. 2 УК РБ как злостное хулиганство или действия, грубо выражающие явное неуважение к обществу, отличающиеся по своему содержанию особой дерзостью, выразившейся в продолжительности и упорстве, крайнем буйстве, нарушающем покой граждан и сопровождающееся повреждением имущества.

Согласно приговора суда Климовичского района Бураков А. А. как незваный гость был осужден по ст. 201 УК РБ к 1 году исправительных работ по месту работы с удержанием 15% заработка ежемесячно в доход государства.

**Н. КОНОНЧИК, заместитель прокурора Климовичского района.**

## •Здоровье

# Диагноз до миллиметра

Ультразвуковая диагностика (УЗИ) сегодня, пожалуй, наиболее совершенный способ медицинского обследования . В Центре "ЛОДЭ" (ул. Киселева,12) с помощью ультразвуковых аппаратов удается в "зародышевой" стадии определить патологию практически любого органа: печени, желчного пузыря, поджелудочной железы, почек, надпочечников, селезенки, матки, яичников, мочевого пузыря, предстательной железы, сердца, сосудов.

Центр начал работу с ультрасовременным цифровым высокочастотным оборудованием компании "Medison" , позволяющим почти со стопроцентной точностью выявить поражения сердечно-сосудистой системы, зоны инфаркта и некроза, малейшую патологию (от 2-3 мм) молочной и щитовидной желез. На ранних сроках (до 12 недель) увидеть дефекты плода у беременных, включая такие трудноопределимые, как легочные, сердечные; дефекты позвоночника и головного мозга. Это значит, что многим пациентам удастся избежать операции на сердце и "щитовидке", а сколько беременных не пройдет через ужас искусственных родов — по сути потери уже выношенного ребенка!..

Уже сейчас в центре трансвагинальные датчики "пеленгуют" отклонения в матке, яичниках, эндометрии. Беременность — с 3-5 дня задержки. Полипы, гиперпластические процессы эндометрия. Трансректальный датчик с математической точностью обнаруживает все "проблемные" зоны предстательной железы: простаты, злокачественные образования.

Очень важно, что отсутствие побочных эффектов ( в отличие от рентгена, скажем) позволяет применять УЗИ при подробном обследовании детей и подростков. Так, благодаря ультразвуковой диагностике выяснилось, что гипертонию у молодых людей зачастую вызывают отнюдь не "особенности пубертатного периода", как принято считать, а опухоли надпочечников...

В идеале каждый житель Беларуси должен хотя бы раз в год проходить комплексный профилактический осмотр на УЗИ.

## Весткі з гаспадарак

**Племзавод "Ціманава": "План продажу зерня дзяржаве — перавыкананы!"**

Гаспадарка паспяхова закрыла свой дзяржзаказ па пастаўках хлеба ў дзяржаўныя засекі. Аб чым расказаў на нядаўнім абласным семінары па пытаннях вядзення сельскай гаспадаркі, які праходзіў на базе нашага раёна, у тым ліку і ў племзаводзе, дырэктар А. А. Валадковіч.

З адсюль яго паступіла 1100 тон з плана 680. У выніку дзякуючы шчодраму сёлетняму ўраджаю ціманаўцы здолелі ўзбіцца на капейчыну, разлічыцца па выдадзеных крэдытах, са старымі даўгамі, акрамя аплаты за электраэнергію. Але гэта, як кажуць, справа часу.

**Калгас "Герой працы": "Расшыраюць пасевы азімых"**

На чатырохстах гектарах маркуюць размясціць сёлета іх у гаспадарцы, што на пятнаццаць працэнтаў плошчаў больш мінулагодняга. Паведаміў рэдакцыі старшыня калгаса Аляксандр Канстанцінавіч Баўкуновіч.

Каб іх паспяхова адсеяць, тут зараз вялікая нагрузка легла на плечы аратых Віктара Фёдаравіча Белахвостава і Аляксандра Віктаравіча Кружаленкі, якія аруць на трактарах МТЗ-82 і Мікалая Іванавіча Глушакова, які рыхтуе глебу на трактары К-700. Бо яны ж забяспечваюць асноўны фронт работ для сейбітаў.

**Калгас "Рабочы": "Вызваляюцца палі ад саломы"**

Каб хутчэй вызваліць палі ад саломы стараюцца на яе прэсаванні механізатар Іван Малахаў, а на сціртоўцы на Куне — Аляксандр Каспераў. А вось адвозіць зерне сушыць тут вадзіцель Аляксандр Казлоў, а сушыць яго гэтак жа рупліва на збожжатоку машыніст сушылкі М-819 Сяргей Паўлючэнка. Аб якіх нас праінфармаваў старшыня калгаса Ігар Аляксандравіч Братанаў.

**І. ЛАПО.**

## Благодарим за помощь

Выражаем искреннюю благодарность коллективу райгаза и лично начальнику Саковичу Ивану Борисовичу в оказании помощи в похоронах дорогого нам человека — **ЖАРИКОВА Николая Васильевича.**

Низкий поклон вам за сердечность и понимание.

**РОДНЫЕ И БЛИЗКИЕ.**

**Калектыў Мілаславіцкай сярэдняй школы выказвае глыбокае спачуванне настаўніку школы ФІЛІПЕНКУ Аляксандру Ільічу з выпадку напаткаўшага яго вялікага гора — смерцю сястры.**


**Галоўны рэдактар Мікола МІНЧАНКА**

**"РОДНАЯ НІВА". Заснавальнікі: Клімавіцкі раённы выканаўчы камітэт, Клімавіцкі раённы Савет дэпутатаў, працоўны калектыў рэдакцыі.**

**Газета выдаецца на беларускай і рускай мовах 2 разы на тыдзень — па серадах і суботах.**

**Кошт 1 экземпляра газеты — 32 рублі.**

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 213600 г. Клімавічы, пл. 50-годдзя Вялікага Кастрычніка, д. № 1.

ТЭЛЕФОНЫ: галоўнага рэдактара -- 2-11-69, намесніка рэдактара і загадчыка аддзела савецкага будаўніцтва -- 2-11-60, адказнага сакратара -- 2-12-63, аддзелаў сацыяльных праблем і інфармацыі, рэдактара аддзела па рэкламе і аб'явах -- 2-12-65, аддзела эканомікі і бухгалтэрыі -- 2-12-64, аддзела радыёінфармацыі -- 2-31-58, прыёмнай рэдакцыі -- 2-11-69, мясцовай друкарні --2-31-55.

Рэдакцыя газеты мае права публікаваць артыкулы і іншыя матэрыялы ў парадку іх абмеркавання, не падзяляючы пры гэтым думкі, погляды і меркаванні таго ці іншага аўтара.

За змест аб'яў і іншых рэкламных матэрыялаў рэдакцыя не адказвае. Усе даведкі -- у рэкламадаўцу.

**Цэнтралізаваны выпуск газеты ажыццяўляе адказны выпускаючы Н. Абжыгалава.**

**Газета надрукавана ў Магілёўскай абласной друкарні імя Я. М. Свярдлова (вул. Першамайская, 70, тэл. 25-28-05). Аб'ём — адзін друкаваны аркуш.**

**Зак. 68. Тыраж 1900 экз. Індэкс 64078. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання № 286.**

**Выдавец — аддзел па друку Магілёўскага аблвыканкама**

**Газета падпісана да друку ў 17.00 29. 8. 2000 г.**